 

# ГОЛАС ПАПЫ Ў АБАРОНЕ МІРУ

У Ватыкане апублікавана новая энцыкліка папы Іаана XXIII. Пачынаецца яна ад слоў «Pacem in terris...» (За мір на зямлі...). Гэта ўжо восьмая энцыкліка Іаана XXIII, якая сведчыць аб яго вялікай актыўнасці.

Калі б энцыкліка з'яўлялася толькі царкоўным дакументам, мы не ўдзялялі б ёй увагі на нашых старонках. Тут аднак справа выглядае інакш. Як вынікае з першых слоў, энцыкліка датычыць найбольш важных сучасных палітычных праблем. Зрэшты, не першы раз Іаан XXIII іх закранае. Памятаем яго разумны голас у час кубінскага крызісу, памятаем выказванні аб польскіх заходніх граніцах у час Ватыканскага сабора ці, урэшце, прагрэсіўны характар папярэдняй энцыклікі «Mater et magistra» («Маці і настаўніца»), у якой гаварылася аб патрэбе суіснавання розных светапоглядаў і заклікалася да памяркоўнасці.

Папа рымскі ў сваім кароткім выступленні з выпадку падпісання новай энцыклікі адзначыў, што ён звяртаецца тут не толькі да католікаў, але таксама да ўсіх людзей добрай волі, каб яны захацелі ўнесці асабісты ўклад у справу міру на зямлі. «Усеагульны мір, — сказаў папа, — гэта дабро, якое датычыць усіх без ніякай розніцы...»

Энцыкліка развівае гэтую думку значна шырэй. Гаворыць, напрыклад, аб неабходнасці разбраення. Іаан XXIII з глыбокім сумам сцвярджае, што велізарныя запасы зброі — гэта вялікае марнатраўства духоўнай і матэрыяльнай энергіі. І таму папа звяртаецца з заклікам да ўсіх людзей добрай волі, каб ваенны псіхоз уступіў месца духу ўзаемнага даверу, таму што толькі такім чынам можна запэўніць сапраўдны мір паміж людзьмі. Папа справядліва асцерагае, што «працягванне ядзерных выпрабаванняў можа мець катастрафічныя вынікі для жыцця на зямлі. Непаразуменні паміж народамі трэба вырашаць не збройным шляхам, а ў перагаворах».

Варта яшчэ прыгадаць некалькі ўрыўкаў з папскай энцыклікі: «Пачуццё справядлівасці, разважнасці і чалавечнасці, — адзначае папа, — патрабуе спынення гонкі ўзбраення. Лічым сваім абавязкам асцерагчы перш за ўсё тых людзей, якія нясуць на сваіх плячах цяжар адказнасці, каб яны пакладалі ўсе намаганні на карысць захавання міру. Арганізацыя Аб'яднаных Нацый павінна ў штораз большай ступені ўмець спаўняць свае вялікія задачы.» Іаан XXIII спадзяецца, што надыйдзе дзень, калі ААН загарантуе кожнаму чалавеку правы, вынікаючыя непасрэдна з чалавечай годнасці.

Энцыкліка «За мір на зямлі» з'явілася ў адпаведным моманце. Вось зараз некаторыя хрысціянскія краіны разгортваюць штораз больш шалёную гонку ўзбраення. Калі Ватыкан патрапіць зараз аказаць свой маральны ўплыў на заходнюю палітыку, дык мэта гэтай энцыклікі — умацаванне міру — будзе дасягнута. Людзі, якія стаяць далёка ад касцельнай дактрыны, з задавальненнем сцвярджаюць, што палітычныя думкі, заключаныя ў апошняй энцыкліцы Іаана XXIII, ідуць насустрач іх жыццёвым інтарэсам і намаганням. Таму мы і прысвяцілі наш каментарый папскай энцыкліцы «За мір на зямлі.»

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# У МУРАХ ГЕТА

УЛ. СТАНКЕВІЧ

Мінула дваццаць год ад часу бяспрыкладнай у гісторыі бітвы ў мурах варшаўскага гета. 19 красавіка 1943 года ў варшаўскім геце ўзнікла ўзброенае паўстанне. Успыхнула яно ў вельмі трагічных умовах і таму вымагала асабліва вялікай ахвярнасці і геройства яго ўдзельнікаў.

Ад дня стварэння гета ў Варшаве да красавіка 1943 года загінула ад голаду, у выніку эпідэмій, фізічнага вычарпання і расстрэлаў звыш 100.000 яўрэяў, апрача гэтага звыш 300.000 яўрэяў было вывезена на знішчэнне ў Трэблінку. На пачатку 1943 года варшаўскае гета ўжо не займала цэласнай тэрыторыі. Гітлераўцы падзялілі гета на чатыры строга замкнутыя часткі. Напярэдадні паўстання ў гэтых чатырох частках знаходзілася каля 70.000 яўрэяў. Гэта былі ўжо рэшткі вынішчанага народу.

Нягледзячы на трагічнае становішча яўрэйскага насельніцтва, паўстанне ў варшаўскім геце не было выразам роспачы, а вынікам доўгага арганізацыйнага працэсу і пошукаў шляхоў далучыцца да агульнага руху супраціўлення ў Польшчы. Доказам гэтага было ўтварэнне ў сакавіку 1942 года ў варшаўскім геце антыфашысцкага блоку. Большасць падпольнага друку, і асабліва орган антыфашысцкага блоку «Дэр Руф» (Кліч) заклікалі яўрэйскае насельніцтва да супраціўлення. Антыфашысцкі блок меў канкрэтную праграму барацьбы за нацыянальнае і грамадскае вызваленне, заклікаў яўрэйскае насельніцтва ўключыцца ў агульнанароднае змаганне супроць гітлераўцаў. Блок быў створаны на тэрыторыі гета Польскай Рабочай Партыяй і сіяністычнай левай фракцыяй.

У палавіне 1942 года ўзнікла думка аб стварэнні баявой арганізацыі. Ва ўмовах сур'ёзнага палітычнага распаду яўрэйскага асяроддзя гэта была цяжкая справа. Толькі ў кастрычніку былі аб'яднаны ўсе сілы, а ноччу на 2 снежня 1942 года быў прыняты статут Яўрэйскай Баявой Арганізацыі, якая ставіла перад сабой наступныя мэты: а) Арганізаваць абарону гета ў выпадку далейшага высялення, б) Абарона яўрэйскага насельніцтва перад наймітамі і прыслужнікамі акупантаў.

На чале арганізацыі стаў 24-гадовы Мордхай Анелевіч — камендант і члены штаба — Герш Берлінскі, Іцхак Цукерман, Марэк Эдэльман і Міхал Ройзенфельд.

Арганізацыя не абмяжоўвалася дзейнасцю толькі на тэрыторыі варшаўскага гета. Яна навязала і ўтрымлівала кантакты з іншымі гетамі ў Польшчы і лагерамі, утрымлівала сувязі з польскім падполлем, а ад сакавіка 1943 года была ў цесным кантакце з Гвардыяй Людовай і Арміяй Краёвай, ад якіх атрымлівала зброю.

18 студзеня 1943 года Яўрэйская Баявая Арганізацыя прайшла першы баявы экзамен. Моцныя аддзелы СС і паліцыі ўступілі ў гета з мэтай вываза яўрэяў у лагеры смерці. Гітлераўцы не чакалі такога супраціўлення ад насельніцтва. У выніку змаглі яны вывезці з гета толькі невялікую колькасць яўрэяў.

Канспірацыйны друк ППР, ГЛ, РППС, дэмакратычны друк, а таксама «Бюлетын інфармацыйны» — орган АК пісалі аб вялікім значэнні першага баявога парыву гета.

13 сакавіка Яўрэйская Баявая Арганізацыя другі раз выступіла супраць немцаў, калі тыя ўзяліся грабіць на вуліцах цэнтральнага гета. Гэтае выступленне яшчэ больш павысіла аўтарытэт арганізацыі ў вачах насельніцтва гета і польскага падполля. А немцы сур'ёзна занепакоіліся.

Побач з гэтай арганізацыяй пачалі ўзнікаць на тэрыторыі гета шэраг іншых, меншых груп. Найбольшай сярод апошніх быў Яўрэйскі Саюз Вайсковых. У канцы 1939 года група яўрэяў, былых афіцэраў і падафіцэраў вераснёўскай кампаніі, аб'ядналася ў падпольную арганізацыю «Світ» і навязала кантакт з польскай падпольнай вайсковай арганізацыяй, якой кіраваў палкоўнік Петрыкоўскі («Тарнава»). У 1942 годзе «Світ» перааргапізаваўся ў Яўрэйскі Саюз Барацьбы, затым змяняючы назву на Яўрэйскі Саюз Вайсковых, які прымаў вялікі ўдзел у паўстанні.

Рыхтуючы ліквідацыю ўсіх гетаў на тэрыторыі так званай Губерніі, Гімлер вырашыў у першую чаргу пакончыць з рэшткамі варшаўскага гета. Тэрмін быў вызначаны на 19 красавіка 1943 года. Немцы меркавалі, што ўсё будзе скончана за 3 дні, і што ў дзень нараджэння Гітлера (20 красавіка) змогуць афяраваць яму дар у выглядзе «свабоднай ад яўрэяў» Варшавы.

У акцыю ліквідацыі гета была прыцягнута вялікая колькасць эсэсаўцаў, паліцыі і жандармерыі. Немцы былі ўзброены навейшай зброяй, аўтаматамі і неабмежаванай колькасцю амуніцыі. Іх суправаджалі танкі і бронемашыны, дапамагаў агонь артылерыі і самалёты. Яны

(Працяг на стар. 7)




■ Справаздача - выбарчы сход у Орлі апрацаваў план працы да канца бягучага года, прыняў 14 новых членаў, выбраў дэлегатаў на павятовую канферэнцыю аддзела, а таксама выбраў новае праўленне гуртка, якое ўзначаліла Тамара Мараўская. Члены гуртка ў час дыскусіі асабліва звярталі ўвагу на падпіску «Нівы» і арганізаванне драмгуртка.

■ У Парцаве справаздача - выбарчы сход звярнуў увагу на тэрміновае аплачванне членскіх складчын і на шырэйшае карыстанне дакладамі лектарскай групы Галоўнага Праўлення БГКТ. На чале новага праўлення гуртка стаіць Аляксей Брэчка.

■ У плане працы гуртка БГКТ у Галадах ёсць і такія пункты, як спатканне з супрацоўнікам «Нівы» Мацеем Канапацкім і запрашэнне ў сваю вёску эстраду «Лявоніха». Старшынёй гуртка выбраны зноў Аркадзь Багінскі.

■ У Малінніках арганізаваўся нядаўна гурток БГКТ, у які прынята 17 асоб. Старшынёй гуртко-ўцы выбралі Мікалая Базылюка. Сход выбраў дэлегатаў на павятовую канферэнцыю аддзела БГКТ у Бельску, а таксама апрацаваў план працы да канца 1963 года.

■ Тапчыкалаўскія члены БГКТ на справаздача - выбарчым сходзе гуртка пастанавілі арганізаваць у сваёй вёсцы драмгурток і пашырыць падпіску на «Ніву». Новае праўленне ўзначаліў Уладзімір Сват.

■ У Мокрым справаздачу з дзейнасці гуртка склаў яго старшыня Аляксей Нікіцюк. Члены БГКТ пастанавілі арганізаваць драмгурток, экскурсію ў Кентшын і спатканне з паэтамі Віктарам Шведам і Алесем Барскім.

■ Гурток БГКТ у Гацьках выбраў новае кіраўніцтва на чале з Міхасём Васілюком і дэлегатаў на павятовую канферэнцыю аддзела БГКТ.

■ На справаздача - выбарчым сходзе ў Трашчотках галоўная ўвага была звернута на пабудову святліцы грамадскім чынам. У члены БГКТ было прынята 5 чалавек. Старшынёй гуртка аднагалосна выбралі Аляксандра Леўчука.

# Спорт

Вялікодныя святы для энтузіястаў спорту былі вельмі нуднымі. Спартыўных дзеячоў (таксама і спартсменаў) нельга было адцягнуць ад багата заста ўленых сталоў. Напэўна падалі тут розныя рэкорды, напрыклад, у спажыцці алкагольных напіткаў, але, на жаль, яны не будуць зацверджаны і не прынясуць нам славы. Стадыёны былі пустымі. Таму да ўзроўню незвычайнай падзеі выраслі паўфінальныя сустрэчы на футбольны кубак краіны. Тым больш, што Рух гладка (3:0) абыйграў Гурніка і 1 мая сустрэнецца ў фінале з Заглэмбем, якое ледзь справілася (2:1) з лідэрам II лігі Шамберкамі. Каму дастанецца кубак? Нашым фаварытам, зразумела, з'яўляецца Рух.

У савецкім спорце ўсё большую ўвагу прыцягвае футбольны чэмпіянат, які пачынае набіраць тэмпы. Як вядома, сёлета 5 апошніх каманд выбывае з I лігі (выступае 20 каманд). I гульня набрала колераў са старту. Пасля трох тураў аднаасобным лідэрам з'яўляецца тбіліскае Дынама. Яно пакуль не страціла ніводнага ачка і не прапусціла ў свае вароты ніводнага мяча. Мінскія дынамаўцы пасля нічыёй з кішынёўскай Малдовай набралі 3 ачкі і займаюць добрае 10 месца. Наўрад, ці ўдасца яго доўга ўтрымаць. Ужо чарговым сапернікам беларусаў будзе мінулагодні чэмпіён краіны маскоўскі Спартак.

Аут




Наступіў вечар. Святло ў доміку Шталекера было пагашана, акно адчынена. Фраў Берта стаяла ля акна, трымаючы за аброжак сабаку, якую незадоўга да гэтага перавялі з кануры ў хату.

На сцяне зашыпеў старасвецкі гадзіннік, пачулася дзесяць удараў.

— Пара, — прашаптала фраў Берта.

Прайшло яшчэ некалькі мінут. Потым за акном, недзе воддаль, пачуліся кароткія аўтамабільныя гудкі, данёсся рокат матора. Аўчарка глуха забурчэла.

— Ціха, Дзік. — Жанчына пагладзіла яе. — Ціха, нельга шумець!..

Сігналы пачулі і мужчыны.

— Хутчэй, Краузе, — прашаптаў Шталекер. — Хутчэй, яму нельга спыняцца!

106

Шталекер і Аскер адчынілі дзверы, пайшлі да брамкі. Аскер паглядзеў у бок, адкуль даносіўся шум матора, і ўбачыў грузавік.

Калі машына параўнялася з домам, шафёр адчыніў дзверцы. Шталекер і Аскер выбеглі на тратуар і на ходзе ўскочылі ў кабіну. Дзверцы захлопнуліся. Машына павялічыла хуткасць.

Недзе ў цэнтральнай частцы горада перад аўтамабілем замаячыў патруль. Шафёр грузавіка, малады хлапец з цёмнай павязкай на левым воку, сказаў:

— Калі затрымаюць, усе мы — рабочыя з «Ганса Бемера». Вязем пясок. Прапускі на ўсіх у парадку.

Машына не спяшаючы прайшла побач паста. Два салдаты і паліцэйскі абыякавым позіркам праводзілі цяжка асеўшую пад грузам пяску васьмітонку.

Праз паўгадзіны грузавік апынуўся на супрацьлеглай акраіне Остбурга. Домікі, абваколеныя маленькімі садзікамі, стаялі тут даволі далёка адзін ад аднаго. Спераду маячыў велізарны чыгуначны мост.

— Пад'язджаем, — сказаў Шталекер, узяўшыся за ручку дзверцаў. — Вось той дом, сярод дрэў. Бачыце, Краўзе?

— Так, — кіўнуў Аскер.

Грузавік зменшыў хуткасць. Дзверцы адчыніліся. Шталекер і Аскер выскачылі з кабіны. Аўтамабіль даў газ і паехаў.

107

— Нават не падзякавалі яму, — прамармытаў Аскер.

— Бог дасць, яшчэ сустрэнецеся!

Шталекер наблізіўся да закрытага акна, пастукаў у аканіцу — двойчы і, крыху пачакаўшы, трэці раз. З-за аканіцы пачуўся ў адказ удар.

— Пайшлі, — сказаў Шталекер. Яны прайшлі ля парадных дзвярэй, на якіх вісеў цяжкі замок, абыйшлі дом. У задняй сцяне Аскер убачыў другія дзверы, меншыя. Шталекер пхнуў іх, прапусціў Аскера, павярнуў ключ у замку. Шчоўкнуў выключальнік. Запалілася святло. З пакою выйшаў мужчына, з якім Шталекер сустрэўся некалькі гадзін раней.

Секунда, і, ускрыкнуўшы, ён кінуўся да Аскера. Шталекер быў ашаломлены.

Оскар Шуберт! Керымаў вокамгненна ўспомніў лета мінулага года, лес на поўначы Сілезіі. Ён за рулём «Шцеера», побач — звязаны начальнік агентурнай школы... Аскер закінуты сюды, каб устанавіць, дзе школа, і ліквідаваць групу фашысцкіх агентаў, падрыхтаваных да дзеянняў у тылах савецкіх войск. Адчайныя намаганні прасачыцца ў школу не далі вынікаў. Засталося адно: захапіць начальніка школы. І вось Аскер вязе яго ў лес, дзе, як ён ведае, скрываецца група ўцекачоў з канцэнтрацыйнага лагера. Аскер павінен папярэдзіць уцекачоў, што сховішча іх выяўлена і ў абверы рыхтуецца аперацыя... Там, у лесе, ён упершыню сустрэўся з Шубертам. Пасля допыту начальніка школы, у Аскера аказаліся вельмі важныя дадзе-

108



 

**З ПІСЕМ ЗЕМЛЯКОЎ**

# КАВАЛЬСКІЯ ЖАРТЫ

Скажы ты, мілая мая, як моцна цяпер пільнаваць трэба ўсяго і глядзець кажнюткаму чалавеку на рукі нат' няхай сабе ён і добрым знаёмым будзе. Нездарма пагаварваюць людзі, што сцеражонага і Бог сцеражэ! Павёз наш Ваня ў тую пятніцу да млына муку малоць, бо свята не за гарамі, а пытляванкі ў нас зусім не засталося. Папрасіў Грышку таго чарнявага, што на Калядах бываў у вашай гасціне, каб фурманкаю сваёю падсобіў, за што пасля меліся адудзячыцца яму ды дагаварыцца ў згодзе да-й па справядлівасці. Бо ж на каня свайго яшчэ не разжыліся, а на гаспадарцы такой слабой ляпей ужо свінча якое-лень падгадаваць, чымсьці каню скарміць за зіму збожжа ўсенькае і на хлеб пазычаць па суседзях, пакуль урараджаю новага прычакаешся. І вось, намалолі мукі Ваня з Грышаю, узвалілі на фуру мяшкі цёпленькія, самі спераду расселіся і надумаліся адразу накіравацца дамоў, каб поўнач не захапіла ў дарозе. Але, бы на бяду, згледзелі, што якраз крама адчынена і мужчынскім звычаем пайшлі піва хляптаць, увязаўшы лейцы на плоце. Як доўга пілі яны піва тое, хто іх ведае? Даволі таго, што, калі выйшлі ўрэшце з крамы, мяшкоў з мукою на фурманцы не было, прапалі бясследу. Мужчыны ажно вачыма заморгалі. Здагадкі розныя закруціліся па галаве, ірвануліся наўздагон зладзеяў халерных, бо няйначай іхні гэта след свежы наперадзе ўсё відавочны быў. Здаецца, на трэцяй вярсце бачаць, што едзе хтосьці перад імі ды неяк зусім не спяшае і нават не аглянецца. Наганяюць яны гэтага чалавека, і пытаюць яго Ваня з Грышаю, ці не праязджалі сюдыма людзі другія? А ён крычыць ім у адказ, што мо' якіх пяць мінут таму, як праняслося краем два якіхсьці незнаёмых і, быццам чэрці, шпарылі каня безустанку, і паперлі, аж ветрам ад іх пацягнула. Пэўна, кажа, няшчасце дзесьці здарылася?!

Вядома, няма калі тут тлумачыць падарожнаму пра няшчасце дурное, Грыша шпарчэй замахнуўся пугаю на худобіну запененую і, у злосці зацісн уўшы зубы, усё спадзяваліся за кожным паваротам напароцца на жулікаў тых, бо хіба недалёка ад'ехаць паспелі, зладзеі паршывыя! Але праехалі Ваня з Грышкаю ўсю дарогу і ў вёску ўехалі, аднак жа нідзе нікога не напаткалі.

Толькі адно было пэўнае, што муку нашу ўкраў хтосьці з суседзяў блізкіх, бо з вёскі ўжо сляды тыя нікуды не выходзілі. Вось! І таму спатрэбілася чым хутчэй даведацца: — або да млынара назад павярнуць з роспытамі, хто яшчэ муку малоў у дзень гэты, або пры памяці свежай абабегчы людзей, ці не заўважылі фурманкі, каб хутка гналася ў вуліцу вясковую найбольш паўгадзіны таму назад. Сюды-туды павярнуліся, і ведаеш, падазроным нам стаў каваль стары з Андрэевым Колькам, якія нібы вось тут-як-тут аднекуль прыехалі, і ў склеп штосьці валачылі паціху. Ванька кажа тады кавалю, каб муку аддаў па добрай волі, але той дзе там!... Як не кінецца з кулакамі ды як не пачне лаяцца брыдка, дык адразу сталася ясным, што напэўна яны ў гэтым вінаваты!

Ваня зараз жа крыкнуў да Грышкі, каб нікуды не адыходзіў ад хаты кавалёвай, а сам кінуўся званіць з пошты на міліцыю, значыць, каб з рэвізіяй прыслалі кагосьці. Пачуўшы такое, каваль з месца абмяк ды гаворыць, ікаючы ад перапалоху вялікага, што не трэ' міліцыі цягнуць... Ён гэта ўкраў муку, сам прызнаецца, аддасць яе цалюткую, бо нікуды не высыпаў мяшкоў тых, адно саломаю прыкрыў іх для непазнакі.

А назаўтра, знаеш, прыбягае да нас каваль ды Колька з жонкамі сваімі і водкаю ды просяць - моляць на ўсякія лады, каб, крый Божа, не ўздумаў Ваня ў міліцыю даносіць на іх, і губіць іхнія сем'і, бо ўсё гэта праз дурноту сталася, мукі ўласнай удоваль маюць, навошта ім чужую красці?! Але, бачыце, стукнула ў галавубулавешку глупства ліхое, немач паскудная на розум навалілася і ўдвух яны задумалі нібы толькі пажартаваць з Вані і для смеху ўкралі яго муку, калі той павалокся на піва з Грышкам...

Дзіўныя жарты... Чаго добрага, без хлеба засталіся б.

**АДОЛЬ КАСТРЫЦА**

# КРАМЛЁЎСКІ ЛЕТУЦЕННІК

(Працяг са стар. 1)

толькі спрэчкі і можна без цяжкасці ўявіць сабе, што ў гэтых густа населеных краінах, з высока развітай прамысловасцю, электрыфікацыя можа даць выдатныя вынікі... Але думаць аб ажыццяўленні такіх праектаў у Расіі? Сапраўды, патрабуе гэта не абы-якога намагання разгуляўшайся фантазіі. Калі гутарка аба мне, ніяк не магу ўявіць сабе той Расіі будучыні. Але гэты незвычайны, невялікага росту чалавек у Крамлі мае вялікі дар уяўлення. Ён ужо бачыць, як замест сёнчяшніх выкарыстаных паяздоў пачнуць хадзіць новыя, электрычныя, бачыць, як стужкі новапабудаваных дарог перасякуць цэлую краіну, як на развалінах мінулага цвіце шчаслівая прамысловая камуністычная дзяржава.

На працягу нашай гутаркі Леніну амаль удалося ўпаіць у мяне перакананне аб рэальнасці яго візіі.

— І возьмецеся вы, — спытаў я, — рэалізаваць свае планы з рускім селянінам, які моцна трымаецца падараванай зямлі?

— Перабудова ахопіць не толькі гарады, вёска таксама зменіцца да непазнання.

...Я спрачаўся з ім, намагаўся яму даказаць, што бальшавікі павінны будуць перабудаваць не толькі матэрыяльную структуру грамадства, але і спосаб думак цэлага народа. Згодна з традыцыяй і звычаямі рускія з'яўляюцца індывідуалістамі і любяць займацца гандлем. Хочучы пабудаваць новы свет, трэба спачатку карэнным чынам змяніць іх псіхалогію. У адказ Ленін спытаў мяне, ці паспеў я ўжо пазнаёміцца з тым, што зроблена дагэтуль у галіне асветы. Пахвальна адазваўся я аб пэўных рэчах, якія бачыў. Ленін усміхаўся задаволены. Ён сам бязмежна верыць у пачатую ім справу.

— Дык гэта ж толькі планы, першыя крокі, — сказаў я.

— Згаджаюся, але прыедзьце за дзесяць год і паглядзіце, што змаглі мы зрабіць у Расіі праз гэты час, — адказаў Ленін.

* * *

## НА СЛЯДАХ ЛЕТУЦЕННЯЎ

**Гутарка М. С. ХРУШЧОВА па тэлефоне з начальнікам будаўніцтва Краснаярскай электрастанцыі А. Е. БОЧКІНЫМ. 25 сакавіка, 1963 года.**

**М. С. Хрушчоў:** — Таварыш Бочкін, добры дзень, гаворыць Хрушчоў.

**А. Е. Бочкін:** — Добры дзень, Мікіта Сяргеевіч. Слухаю Вас.

**М. С. Хрушчоў:** — Як у вас ідуць справы?

**А. Е. Бочкін:** — Паспяхова, Мікіта Сяргеевіч. Праз дзве гадзіны перакрыем Енісей.

**М. С. Хрушчоў:** — Віншую вас і ўсіх будаўнікоў Краснаярскай ГЭС, якія здзяйсняюць вялікія справы — пакараюць Енісей, каб прымусіць яго працаваць на камунізм.

**ДЗІЎНАГОРСК, 25 сакавіка, 1963 г.** (ТАСС). Сёння ў 17 гадзін 30 мінут па мясцоваму часу будаўнікі самай вялікай у свеце Краснаярскай ГЭС завяршылі перакрыццё Енісея.

Смелая задача праекціроўшчыкаў і будаўнікоў, якія распрацавалі эканамічна эфектыўную схему перакрыцця магутнай ракі ў зімовых умовах пры мінімальных выдатках вады, цалкам апраўдалася.

Вырашэнне такой гідратэхнічнай задачы ажыццёўлена ў практыцы сусветнага гідрабудавання ўпершыню.

*

**РАПАРТ БУДАЎНІКОЎ КРАСНАЯРСКАЙ ГЭС ЦЭНТРАЛЬНАМУ КАМІТЭТУ КПСС:**

**«Разгортваючы работы па будаўніцтву Краснаярскага гідравузла і новага горада Дзіўнагорска, мы ўжо ў сёлеташнім годзе павінны пачаць падрыхтоўчыя працы ў стварэнні новай, яшчэ большай Саянскай ГЭС. Мы прапануем назваць Саянскую ГЭС Шушэнскай гідраэлектрычнай станцыяй імя Уладзіміра Ільіча Леніна і ўвесці яе ў строй да стагоддзя з дня нараджэння нашага роднага Ільіча».**

**Выбраў і пераклаў**
**РЫГЛЯС**

## РОДНЫ КРАЯВІД



ТРАСЦЯНКА.

Фота: Уладзімір ЮЗВЮК

ныя. Іх неабходна было неадкладна пераслаць кіраўнікам савецкай разведкі. Але Аскер не меў сродкаў сувязі. Што рабіць? Шуберт параіў яму перайсці лінію фронта, а сам з таварышамі ўзяўся знішчыць агентурную школу... Пасля Аскер даведаўся, што Оскар Шуберт стрымаў слова. Але было вядома і іншае — амаль усе ўдзельнікі аперацыі загінулі...

І вось цяпер Шуберт, жывы і цэлы, стаіць перад Аскерам, шырока ўсміхаецца!..

— Так, — гаворыць ён, — там было горача, я ўжо думаў — не выбяруся... Але — жывы! Уцалеў, каб вас сустрэць на гэтым свеце!

Шталекер, нарэшце, прамовіў, узяў руку Аскера, моцна паціснуў.

— Прабачце мне, сябра, — сказаў ён, — цяпер веру, што вы — нямецкі камуніст!

— Ну, а я магу цяпер сказаць, што вы памыляецеся.

Шталекер разгублена паглядзеў на Шуберта.

— Вяртайцеся дамоў, Ота, — сказаў Шуберт. — Вам пара, ужо ноч.

Шталекер выйшаў.

Шуберт узяў Аскера пад руку, правёў у суседні пакой, пасадзіў на дыван.

— Расказвайце.

— Перш за ўсё некалькі пытанняў. У Остбургу дзейнічае арганізацыя антыфашыстаў?

— Так.



— І на чале яе — вы?

— Так вырашылі.

— І даўно вы тут?

— Хутка будзе год. Пасля ліквідацыі школы з нашых толькі трое ўцалелі. Мы перабраліся ў Польшчу, прасядзелі там каля месяца. Затым было вырашана накіраваць мяне сюды.

— Ясна. — Аскер памаўчаў. — Таварыш Шуберт, вам знаёма такое імя: Макс Вісбах?

— Зваршчык з завода «Ганс Бемер»?

— Ён. Мне трэба ўстанавіць, што гэта за чалавек.

— Аб ім добра адклікаюцца.

— Я б хацеў бліжэй прыглядзецца да Вісбаха. Ды і наогул, ці можна будзе ўладзіць так, каб за ім паназіралі?

— Мяркую, так.

— Павінен сказаць, што Вісбах — цяпер галоўнае для мяне.

— Асабіста хочаце ім заняцца?

— Гэта было б найлепш. Відавочна, давядзецца пажыць у вашым горадзе.

Шуберт не разумеў, чаму раптам савецкі разведчык цікавіцца нейкім зваршчыкам. Але ён, сам вопытны канспіратар, пытанняў не задаваў. Не сказалі — значыць, так трэба.

— Пажыць у горадзе, — паўтарыў Шуберт. —



Тады давядзецца недзе працаваць. Патрэбна легальнасць.

— У мяне добрыя дакументы, — сказаў Аскер. Не страшна ніякая праверка.

— А пасведчанне шафёрскае ёсць? — раптам спыніў Шуберт. — Вы ж дасканала водзіце машыну.

— Шафёрскае пасведчанне ў парадку. Але раней хацелася б змяніць знешнасць.

Шуберт пытальна паглядзеў на субяседніка.

— Не думайце аба мне надта дрэнна, — сказаў Аскер. — Ніякіх накладных барод ці павязак на вока. Проста — згалю галаву, крыху адпушчу вусы. І — акуляры... Той, з кім я сутыкнуўся ля дома з прахаднымі дварамі, хоць мімаходам, але ўсё ж бачыў мяне.

— Нічога, усё будзе добра, — сказаў Шуберт. — Фатаграфіі ж вашай яны не маюць... А вось са мною больш складана. Кожны шпік можа прыкмеціць. Таму днём не выходжу, ноччу — толькі ў выпадку крайняй неабходнасці. Як, напрыклад, сёння... Але давайце аб вас пагаворым. Ці хацелі б вы на завод, дзе працуе Вісбах?

— Гэта было б нядрэнна. А ў вас ёсць магчымасці?

— На заводзе працуе наш чалавек.

— Шталекер?

— Ёсць яшчэ і іншы...

(Працяг за тыдзень)

# 500 РАЗОЎ ГАСІЎ ПАЖАР

Мікалаю Пятроўскаму, што жыве ў Галадах, Бельскага павета, год ужо каля 70. Але гэта яшчэ чалавек, як кажуць, з агеньчыкам. Стройная не па гадах фігура. Жывы, энергічны, з паходкай вайскоўца. Глядзіш на яго і маеш ураканне, што чалавек усё жыццё быў звязаны з войскам. Уражанне такое зусім, зрэшты, абгрунтаванае. Мікалай Пятроўскі звыш 50 год прабыў у супрацьпажарнай камандзе.

— А пачалося гэта яшчэ перад першай сусветнай вайной, — успамінае Пятроўскі. — У 1912 годзе. Быў я тады яшчэ падшпаркам. У хаце не пераліваласся. Пастухом быў у багацейшых. Абрыдла мне гэта. Думаю, пайду ў свет шчасця шукаць. Так апынуўся ў Гродна. Тады гэта быў губернскі горад. А там знаёмыя дапамаглі ўстроіцца на працу ў супрацьпажарнай прафесіянальнай камандзе.

Мікалай Пятроўскі падышоў да іконы, выцягнуў адтуль скрутак перавязаных шнурочкам папераў і, разгарнуўшы іх, сказаў: — Паглядзіце як тады выглядаў.

Пажаўцелыя здымкі. На адным з іх стройны юнак з ледзь прыкметным пушком вусікаў пад носам. У форме. Толькі вочы Пятроўскага цяперашняга.

— Пры Замкавай вуліцы змяшчалася наша каманда, — успамінае Пятроўскі, беражна загортваючы ў паперу здымак. — А якое ж тады ў нас было супрацьпажарнае абсталяванне? Карамыславая помпа, сякеры і басакі. Станеш пампаваць ваду карамыслам дык пасля трох хвілін вочы на лоб вылазяць. Цяжка. Але затое форма была прыгожая. Ох і заглядаліся на нас граднянкі! — пажартаваў Пятроўскі, пакасіўшыся на жонку.

Некалькі год пасля першай сусветнай вайны Пятроўскі арганізуе добраахвотную супрацьпажарную каманду ў Галадах, адну з першых на Бельшчыне. Вядома, не было тады добрага супрацьпажарнага абсталявання. Але добра арганізаваныя галадоўскія пажарнікі былі гатовы несці ратунак насельніцтву і маёмасці ўсёй ваколіцы.

Зараз супрацьпажарная каманда ў Галадах налічвае 33 асобы. Мікалай Пятроўскі арганізаваў яе ў 1947 годзе. Ён і далей з'яўляецца старшынёй гэтай каманды.

— Супрацьпажарная каманда ў Галадах, — гаворыць камендант пажарнікаў на Бельскі павет, грам. Дзярманскі, — адна з лепшых у павеце. Ахвярныя ў ёй людзі. А Пятроўскі заўсёды служыць прыкладам для другіх.

— Колькі ж разоў вы ўдзельнічалі пры гашэнні пажараў? — пытаем у Пятроўскага.

— А хто яго ведае, — адказвае. — Падліку не вёў. Але калі лічыць, што на працягу года ў сярэднім удзельнічаў у 10-ці пажарах, дык за 50 гадоў, што я быў пажарнікам, мабыць, налічылася б разоў 500.

Мікалай Пятроўскі за сваю доўгагадовую дзейнасць у супрацьпажарнай камандзе ўзнагароджаны «Сярэбраным Крыжам Заслугі», «Залатым Медалем за заслугі для пажарніцтва», «Адзнакай XV год службы» і «Адзнакай XXX год службы».

Хочацца пажадаць паважанаму юбіляру далейшых поспехаў у яго адказнай, але затое як жа ганаровай дзейнасці ў службе людзям.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**



З выпадку 50 гадавіны пажарніцкай дзейнасці Мікалая Пятроўскага адведаў камендант Дзярманскі і ўручыў юбіляру ўзнагароду. Фота. Бельскі

## ПРАДВЕСНЕ БЕЛАСТОКА

(Працяг са стар. 1)

Паасобныя рысункі паказваюць нам будынкі, якія знаходзяцца ўжо ў стадыі рэалізацыі ці неўзабаве будуць будавацца. Характэрнай рысай прац Генрыка Вілька з'яўляецца іх дакладнасць амаль такая, якая вымагаецца ў праектным бюро, а адначасова гэта не нейкая сухая дакументацыя — столькі ж тут святла, прыемных кантрастаў і глыбіні.

Таленту маладога графіка знаўцы прадвяшчаюць цікавую будучыню. Прадвесне Беластока — у яго прывабных задатках на будучыню, якую намагаецца ў сваёй мастацкай візіі ўбачыць Генрык Вільк.

**М. Канапацкі**

## МАЁЎКА БЕЗ ЛІТРОЎКІ

У сувязі з Годам Беластоцкай Зямлі і Днямі асветы, кнігі і друку ад 4-га да 12-га мая на Беласточчыне адбудзецца некалькі асаблівых урачыстасцей. Адна з чатырох запланаваных (7-га мая) прысвечана Гарадку.

Што сабой прадстаўляе такая ўрачыстасць? Ужо, напэўна, цёплым майскім днём пасля поўдня ў Гарадку будзе кірмаш кнігі і латарэя, спатканне насельніцтва з маладзёжнымі дзеячамі і, нарэшце, забава. Напярэдадні вечарам выступіць у Гарадку Беластоцкі сімфанічны аркестр з удзелам «Бэльтоно» і Мацея Калесьніка.

Але гэта яшчэ не ўсё і не найважнейшае. Тое, што будзе 7-га, толькі фінал вялікай культурнай акцыі, якую павінны правесці мясцовыя дзеячы, асабліва моладзь. Асабліва дзяўчаты і хлопцы з ЗМВ, з гуртка вясковых гаспадынь, гуртка БГКТ. Бо ўрачыстасць пачнецца не 7-га, а значна раней. Справа ў тым, каб разбудзіць ініцыятыву людзей (пасля соннай зімы) да працы грамадскім чынам пры будове дома культуры ў Гарадку, да ўпарадкавання вуліц, пляцаў, агародчыкаў, пасадкі кветак. У выніку такой работы Гарадок павінен папрыгажэць, стаць больш культурным, каб прыняць гасцей як найлепш.

І без гарэлкі.

Гэта другая найважнейшая справа маёвай урачыстасці Гарадка. Трэба паказаць усім, што працаваць і гуляць можна д а с к а н а л а без літроўкі. Дзяўчаты — будучыя гаспадыні — могуць і павінны падрыхтаваць малочныя кактэйлі, квасы, якімі змогуць частаваць усіх прысутных на ўрачыстасці.

Думка арганізавання падобных урачыстасцей выйшла ад часопіса «Культура і ты». Адобрылі яе ваяводскія органы культуры і напэўна спадабаецца ўсім. Толькі што папрацаваць, пастарацца трэба самім — гэта зразумела.

З свайго боку абяцаем, што фотарэпартаж з гарадоцкай урачыстасці (калі яна ўдасца) ў «Ніве» зробім таксама.

(вл)

Працяг са стар. 1

— Якім спосабам мне дабіцца ў сельгасаддзеле згоды на забранне маёй гаспадаркі?

— Трэба ў сельгасаддзеле зложыць заяву, у якой выяўляеце жаданне перадачы гаспадаркі.

— Ці гэтага ўжо хопіць?

— Адкуль жа, не так хутка! Трэба вам даказаць, што гаспадарка, якую вы хочаце здаць, з'яўляецца вашай уласнасцю, што яна чыстая.

— Як гэта «чыстая?».

— Гэта значыць, што на ёй няма ніякіх прыватных даўгоў або іншых сплат.

— А калі падатак і дзяржпастаўкі за некалькі апошніх год не ўплачаны?

— Гэта залежыць на якую суму вы задоўжыліся перад дзяржавай. **Калі ваш доўг не перавышае 50% вартасці вашай гаспадаркі, дык гэта не з'яўляецца перашкодай. Дзяржава можа прыняць вашую гаспадарку, а гэты доўг вам даруецца.**

— Вы сказалі: «можа прыняць». Чаму толькі «можа», а не прыйме?

— Бо бачыце, сельгасаддзелы абавязаны прыймаць гаспадаркі **для загаспадаравання,** а не на тое, каб яны **ляжалі аблогам. Тады абавязкова трэба мець упэўненасць, што знойдзецца нехта, хто захоча загаспадараваць вашу зямлю.**

— Хто гэта можа быць?

# ЯК ДЗЯРЖАВЕ

— Нейкі малазямельны селянін, сельгасгурток, ПГР або спулдзельня прадукцыйная.

— А на якіх умовах можна прыняць зямлю ў загаспадараванне?

— На такіх, як дзяржаўны фонд зямлі.

— Нават тады, калі гаспадарка здаецца толькі для загаспадаравання, а не на ўласнасць?

— Так.

— Ці перайманне гаспадаркі для загаспадаравання абумоўленна ўсімі тымі засцярогамі, аб якіх вы ўспомнілі?

— Так, толькі карыстаючыся гэтай другой магчымасцю, селянін можа пасля 10-ці год арэндавання дзяржавай яго гаспадаркі патрэбваць зямлю назад.

— Як гэта разумець? Ці ж бы селянін проста можа падзякаваць сельгасаддзелу за стараннае загаспадараванне яго зямлі і далей сам яе апрацоўваць?

— Так, толькі **павінен спярша звярнуць дзяржаве ўсе капіталаўкладанні, якія на працягу 10-ці год былі неабходныя, каб паставіць яго гаспадарку «на ногі», ды яшчэ заплаціць падаткі, сельгаспастаўкі і складчыны для воднай суполкі, якія былі на гаспадарцы да часу яе перадачы дзяржаве ў загаспадараванне.**

— Значыць, у тым выпадку дзяржава нічога не даруе.

— Бачыце, трэба добра зразумець асноўны сэнс гэтай пастановы. **Сейм, пастанаўляючы яе, даў дзяржаўным установам магчымасць дапамагчы ўсім тым сялянам, якія з-за старасці ці калецтва не могуць самастойна вясці сваёй гаспадар-**

працяг са стар. 1

**Якая кара з'яўляецца ўласцівай?**

Як можна караць і як караць нельга? На гэтыя пытанні без прыкладу цяжка было б адказаць. А калі так, возьмем прыклад з жыцця.

У адной сям'і, матэрыяльныя абставіны якой кшталтаваліся на ўзроўні больш сярэдняга, бацька на працы, маці таксама. Двое дзяцей. Старэйшая дачка ў дзесятым класе. Сын «Х» у трэцім пачатковай школы. Маці «Х» працуе на высокай пасадзе дзяржаўнай установы.

Дзесяцігадовы «Х» прыносіць дадому складаны ножык. У школе шум і крык. Хлопец, у якога нож прапаў, шукае, падаюць розныя падазрэнні. Адзін з хлопцаў гаворыць, што нож бачыў у «Х». Настаўнік просіць бацькоў у школу. Маці абураецца. Абураецца не на сына, а на настаўнікаў, школу і сяброў «Х». Аўтарытэтна сцвярджае: «Мой сын не можа красці. Што за дзіўныя абставіны пануюць у вашай школе? Падазраваеце невінаватага, ён гэты ножык напэўна атрымаў ад сябра, яго, пэўна, падгаварылі. Не для таго аддавала я дзіця ў школу, каб яго тут дэмаралізавалі, а пасля абвінавачвалі!»

Маці паказвае свой недахоп культуры і разважнасці, кідае словы без сувязі — і адны пярэчаць другім — усё з адной мэтай: пераканаць школу ў тым, што яе сын невінаваты, што віну паносіць школа і неадпаведныя сябры па класу.

Гэта было б яшчэ паўбяды. Калі вяртаецца дамоў, расчуляецца над сынам, угаварвае яго, што гэта не ён вінаваты, што яго нагаварылі, каб ён узяў. Гэтым самым адрывае ўвагу хлопца ад учынка, вучыць сына шукаць віны па-за сабой. Сын кідаецца маці на шыю, супакойваецца. Родзяцца ў яго галаве прэтэнзіі да школы і да сябра, аб якім маці яму гаварыла, а сябра той ні ў чым не вінаваты.

Калі аб справе даведаўся бацька, рэакцыя яго была працілеглай. Расправіўся коратка: зняў пасак і збіў сына. Сказаў: «Што мне да тваіх сяброў, мне залежыць, каб ты не вырас злодзеем!» І на гэтым справу скончыў. Ножык астаўся ў хлопца. «Х» схаваў яго глыбока ў шуфляду, а бацьку сказаў, што аддаў сябру.

Зусім іншае становішча заняла старэйшая сястра «Х». Вечарам сказала бацькам, што «Х» не аддаў нажа і што бацькі павінны яму прыказаць, каб нож аддаў сябру. Калі «Х» сцвярджае, што нажа ў яго няма, сястра гаворыць, што хай прадасць свой новы скураны партфель, а ножык — такі самы, не горшы — адкупіць сябру. Бацьку сказала: «Справа ж не ў тым, што «Х» атрымаў і яму балела. «Х» павінен зразумець, што нельга крыўдзіць сяброў. Хай навучыцца направіць свае дрэнныя ўчынкі. Ён павінен звярнуць сябру нож і сказаць настаўніцы аб тым, што гэта ён сам забраў і ніхто яго да гэтага не намаўляў. Кінуць падазрэнні на невінаватага — цяжэйшае злачынства, чым кража нажа».

З гэтага прыкладу відаць, што сястра «Х», хаця і наймалодшая, выбрала найбольш цяжкую дарогу, але найбольш правільную ў выхаваўчай працы. Аб учынку маці не варта гаварыць, ён быў неразумным і шкодным для ўласнага дзіцяці. Рэакцыя бацькі, хоць мела правільны напрамак — пакаранне за крадзеж, але не была прадуманай. Бацька пайшоў па найменшай лініі супраціўлення. Не думаў, як уздзейнічаць на сына, каб больш не рабіў дрэнна — набіў яго і здалося яму, што споўніў свой бацькоўскі доўг.

Возьмем другі прыклад. Хлопчык разарваў нагавіцы на плоце. Што рабіць? Біць яго за гэта? Не. Пазбавіць прагулкі? Таксама дрэнна. Няхай жа сам зацыруе. Нічога, што выйдзе ў яго горш, непрыгожа. Такая аднак кара мае лагічную сувязь з дрэнным учынкам, мае ў сабе трохі непрыемнасці — страта свабоднага часу. Але такая кара вучыць, што сапсаваць рэч значна лягчэй, чым адрамантаваць яе, што трэба шанаваць вопратку і ўсё тое, што здабыта людской працай.

Адсюль вынікае, што натуральная кара з'яўляецца найбольш адпаведным відам кары. З выхавання

# ВЫРОШЧВАЦЬ

трэба выкінуць такія кары, як біццё, вугал, калені, прывязванне дзяцей да ножкі ложка і г.д. Такія кары не маюць лагічнай сувязі з учынкам, маюць толькі характар рэпрэсіі, а калі будуць стасавацца часцей, будуць выклікаць у дзіцяці скрытую нянавісць і страх перад бацькамі. У будучыні дзеці могуць адплаціцца бракам прыхільнасці і сэрца да бацькоў, калі тыя будуць ад іх залежны.

Пры дапамозе страху можна кіраваць рабамі, але страхам выхоўваць дзяцей — не варта. Калі дзіця будзе баяцца кары, сапраўды, яно будзе стрымлівацца ад дрэнных учынкаў, але не таму, што яны дрэнныя, што яны шкодзяць іншым, толькі таму, каб за тое ці іншае злачынства не спаткала яго кара. Тады, калі яно будзе дарослым і перастане баяцца бацькоў, будзе спакойна рабіць дрэнныя ўчын-

